ГОД V ТРАВЕНЬ - ЧЭРВЕНЬ № 3 (42)
1951 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

## ЗЬМЕСТ



« SUR LA VOIE DIVINE »

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année V. N° 3 (42) Mai-Juin 1951

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VIe

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1951 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 50 фр. | 300 фр. |
| Англія | 1 ш. 5 пэн. | 7 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 1 ш. 10 пэн. | 9 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 45 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. |
| Нямеччына | 70 пф. | 4 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

**Chèque Postale : Paris c. 6287 44**
**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, PARIS VI$^{e}$.**

**У АНГЛІІ:**

**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У АРГЭНТЫНЕ:
**Sr. Juzefovic Henryk, Calle Irala 1510 Dock Sud, BUENOS AIRES.**

У АЎСТРАЛІІ:
**Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE, Q-ld.**

У БЭЛЬГІІ:
**Mr. Vostrykau Michel, 8, Place Hoover, LOUVAIN.**

У НЯМЕЧЧЫНЕ: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 130 фр.— 3 шыл.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутна Божа. Песьня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах, ліках і фактах 250 фр. 6 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Паштоўкі з беларускімі краявідамі — 15 фр. 8 п.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 1200 фр. 1 ф. 10 шыл.
**M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik** — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:
**R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.**

У Англіі: **Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У Нямеччыне: **Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.**

**У В А Г А !**

Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпаданы асаблісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка.

**Рэдакцыя.**

# З беларускае народнае мудрасьці

Чаго сабе ня хочаш, таго і другому не рабі.
Чаго не ясі, таго і к роту не нясі.
Чаго чалавек ня зможа, калі Бог паможа?!
Чалавек гора вытрывае, а роскашы не.
Чалавек памяркуе, а Бог пашванкуе.
Чалавк пакуль у горы не пабудзе, ня знае дабра.
Чалавек у няшчасьці, а Бог у парозе.
Чалавек усё падае, аж пакуль рук не сашчэміць.
Чарка гарэлкі — мора сьлёз.
Часам вучоны будзе лепей, як злачоны.
Чорны мак, да смачны; белая рэдзька, да горкая.
Чорт без балота, а балота бяз чорта ня бываюць.
Чорт плача, што моды не настача.
Чорту царква горш, як Богу карчма.
Чужая бяда — людзям сьмех.
Чужая доля пад бок коле.
Чужая старана тугою ворана, сьлязамі засеена.
Чужога навучайся, свайго ня цурайся.
Чужое лычка раменьчыкам плаціцца.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год V. ТРАВЕНЬ — ЧЭРВЕНЬ. 1951. № 3 (42).


# ЗАГАД ЧАСУ

Хто глыбей задумоўваецца над сучасным палажэньнем у сьвеце, над тым неспакоем, няпэўнасьцю заўтрашняга дня, небясьпекаю, якая вісіць над усім сьветам быццам страшэнная навальніца, што вось, вось гатова абрушыцца на галовы і так зьбедаванага людзтва — таму ня цяжка ўбачыць, што ўсе гэтыя пагражаючыя няшчасьці маюць глыбокую і паважную прычыну ў ідэялёгіях і модах, якімі кіруюцца верхаводзячыя кругі сучаснага грамадзтва.

Найбольш характэрнаю азнакаю сучаснага грамадзкага жыцьця ёсьць ягоная, даведзеная да крайнасьці, сьвецкасьць, ці інакш кажучы ляіцызацыя. Цяпер жыцьцё плянуецца так, быццам на сьвеце ня было ніякае істоты вышэйшае за чалавека, і быццам гэта чалавек зьяўляецца абсалютным валадаром на Зямлі.

Гэткае перакананьне так глыбока прасякае ўва ўсе пласты сучаснага людзтва, што нават вернікі нясьведама падпадаюць пад уплыў ляіцызму. Не зьяўляюцца адзінкамі такія вернікі, якія ў сьвятынях моляцца Богу, славяць Яго, а выйшаўшы на вуліцу, не пакідаюць для Бога ніякага мейсца ані ў сваім сэрцы, ані ў розуме, ані ў сваёй хаце. Жыцьцё вядзецца паводля падвойнае бухгальтэрыі. Праўда, гэты грэх ня ёсьць вытварам дваццатага веку. Ужо ап. Якаў дакараў першых хрысьціян за тое, што, плянуючы сваё жыцьцё, забываюцца дадаць засьцярогу; «Калі Госпад захоча і будзем жывыя, дык зробім тое, ці другое» (Якаў IV, 15). Але здаецца яшчэ ніколі ляіцызацыя не асягала такіх застрашаючых разьмераў, як цяпер.

Жыцьцё паводля падвойнае бухгальтэрыі ў паводзінах заўсёды адбівалася вельмі шкодна і ў асабістых і ў грамадзкіх справах. Але даўней, калі ляіцызацыя ахоплівала толькі невялікі абсяг і толькі некаторых галінаў грамадзкага жыцьця, дык яна яшчэ не ствярала агульнага кірунку ў жыцьці; наадварот гэты кірунак фармаваўся паводля глыбокіх рэлігійных перакананьняў. Лёгка аб гэтым можна пераканацца, пераглянуўшы хоць у галоўных рысах кіруючыя ідэалягічныя плыні мінулых стагодзьдзяў. Для прыкладу будзе даволі пачаць пэрагляд ад X веку.

Старое сярэднявечча характэрызуецца ў будаўніцтве т. зв. раманскім стылем — гэта былі цяжкія будынкі з масыўнымі сьценамі і вежамі, прыстасаванымі да абароны. Цяжка было ворагам прыступіцца да іх, не атрымаўшы балючага адпору, але і рэлігійныя перакананьні тагачаснага верніка былі такімі-ж моцнымі і часта ваяўнічымі; людзі не шкадавалі ахвяраваць сваё жыцьцё за абарону Сьвятое Зямлі ў Крыжовых паходах.

Ад пачатку XII в. прыходзіць новы т. зв. ґотычны стыль. Асабліва характэрныя саборы будаваныя ў ґотычным стылі; яны вырываюцца ўвысь быццам стрэлы і ў тую-ж недасяжную высь цягнуць вока кожнага глядача. У навуцы гэта час схалястыкі, калі ўся думка чалавека так-жа імкнецца адарвацца ад зямлі і накіравацца да Бога. Зьяўляюцца глыбокія багаслоўскія творы, завяршэньнем якіх лічыцца «Багаслоўская сума» сьв. Тамаша з Аквіну. Мастацтва так-жа не адстае ад агульнага кірунку. Паўстаюць нязьлічаныя творы невычарпальна глыбокія ў сваім зьмесьце і раскошна багатыя ў дэкарацыі. Мастакі ў абразох сьвятых стараюцца паказаць не самыя людзкія рысы, але праз гэтыя рысы выявіць самую сьвятасьць. Тагачасны чалавек не шкадуе нічога для большага ўслаўленьня Бога ў кожнай галіне свайго жыцьця.

У XV веку прыходзіць час т. зв. рэнэсансу — адраджэньня. Гэта час, калі пасьля ўпадку Візантыі ў Эўропе сталіся ведамымі творы старое грэцкае культуры і ажыло зацікаўленьне ею, як вяршком мастацкае красы. У будаўніцтве зьнікаюць стралістыя будовы, іх замяняюць клясычныя грэцкія і рымскія стылі з прыгожымі калёнамі. Чалавек пачынае ўзмоцненыя пошукі красы на зямлі, але і далей, як калісь мае цьвёрдую волю, гэтаю красою славіць Бога. Сьвятыні далей астаюцца найпрыгажэйшымі будынкамі, але поруч іх зьяўляюцца раскошныя палацы, ратушы і інш. будынкі, якія мала чым розьняцца ад сьвятыняў. У мастацтве зьяўляецца вольная кампазіцыя; постаці сьвятых ажываюць і моцна падчыркваюцца іхныя людзкія рысы. Распачынаюцца пошукі земскіх вартасьцяў.

У XVIII в. пошукі красы на зямлі вытвараюць т. зв. бароковы стыль. У будаўніцтве клясычныя простыя лініі замяняюцца крывымі і хвалістымі.

Пышнасьць арнамэнту значна ўзрастае і самыя будынкі стаюць больш плястычнымі. У мастацтве статычныя кампазіцыі зьнікаюць, іхняе мейсца займаюць кампазіцыі ў руху на тле кантрастаў сьвету і ценяў. Гэтае ажыўленьне з мастацкае галіны хутка перайшло на ўсе галіны людзкога жыцьця. Імклівы рух кладзе нават на мастацкія творы цень неспакою.

На пачатку XVIII в. барок выраджаецца ў рококо. У будаўніцтве гэты стыль азначаецца пераладаваньнем здрабнелымі і дзівачнымі ўпрыгожаньнямі; гэткімі-ж ненатуральнымі ўпрыгожаньнямі азначаюцца ўсе тагачасныя творы мастацтва і літаратуры. У тагачасных прамовах і рэлігійных казаньнях часта за пустымі рэтарычнымі зваротамі цяжка знайсьці галоўную думку, бо і самая думка часта губляецца ў гушчары фантазёрства. Людзкая ўвага накіроўваецца больш на форму чым на зьмест.

Пасьля Француская рэвалюцыі на кароткі час быў зьявіўся на пачатку XIX в. новы стыль — ампір. Гэта было штучнае паноўнае адраджэньне «клясычнага» стылю, але ён, ня маючы нутранага зьместу, доўга ня ўтрымаўся.

Ад палавіны XIX в. сьледна поўнае замяшаньне і ў будаўніцтве, і ў навуцы, і ў мастацтве. Усё, што да гэтага часу ўважалася вартасным, цяпер абясцэньваецца. Падрыўная работа францускіх энцыклёпэдыстаў з XVIII в. і нямецкіх філязофаў з пач. XIX в. пачала праяўляцца ўсюды. Узгадаваныя пад іхным уплывам дзеячы, распачалі сапраўды павальны церабеж усіх дзялянкаў людзкога жыцьця. У сусьвеце адкінулі Бога, духаў і агулам усякую духовасьць — асталася голая матэрыя; у чалавеку адкінулі душу — асталася толькі «ўпарадкаваная» на жывёлінны лад матэрыя; адкінулі ўсякія вымогі духовага жыцьця чалавека — прызнавалі ў чалавеку толькі патрэбны жывата, розум-жа зышоў да раду толькі вышэй разьвітага інстынкту. Так абцерабіўшы пагляды на сьвет і на чалавека, людзі страцілі зусім мэту свайго жыцьця, цэнтрам увагі стае эканомія. Усе праявы людзкога жыцьця цяпер стараюцца выясьніць з эканамічна-матэрыяльнага гледзішча.

Так страшэнна абкарнаная і пакалечаная людзкая істота вытварыла на пачатку XX в. новы стыль — модэрнізм. Будынкі гэтага стылю выяўляюць поўную ідэйную апустошанасьць. Жыльлёвыя людзкія дамы і сабачыя будкі нічым ня розьняцца між сабою — гэта большыя, або меншыя скрыначкі ад запалак, пазбаўленыя ўсякіх упрыгожаньняў. Выяўленчае мастацтва выраджаецца ў кубізм і футурызм, — мастак сам ня ведае, што квэцае. Мастацкая літаратура затопліваецца парнаграфічнымі рамансамі. У навуцы зьяўляюцца шматлікія гіпотэзы, якія стараюцца выясьняць прыродныя і нават псыхічныя зьявішчы паводля ўпрошчаных сыстэмаў; усе факты, якія супэрэчаць гэтым гіпотэзам папросту адкідаюцца — гэта сапраўдны Пракрустаў ложак для папярэдніх сьветаглядаў. І гэтае калецтва мае бесканечныя амбіцыі, яно імкнецца заняць Божы пасад. Дзеля гэтага і завязваецца нябывалая дагэтуль вайна з рэлігійным сьветаглядам. Гэткім ёсьць сучасны ляіцызм.

Даўней ляіцызм шукаў сабе сьціплага мейсца ў некаторых галінах грамадзкага жыцьця, цяпержа ён імкнецца заняць пануючае становішча, ахапіць усяго чалавека і зьнішчыць усё, што ёсьць рэлігійным. Як бачым між калішнім і сучасным ляіцызмам ёсьць істотная розьніца, дык мусіць быць і розьніца ў адносінах да яго.

Варожасьць да рэлігіі сучаснага ляіцызму змушае кожнага верніка ўсьведаміць сабе небясьпеку тэтага наступаючага ворага духовага жыцьця і шукаць нейкае рады. У абліччы так паважнае небясьпекі нельга аставацца бязьдзейным, ані нельга хавацца ад яе, бо ад ворага нідзе не схаваешся, яго трэба перамагчы — гэта адзіная рада. Дзеля гэтага нашым неадкладным абавязкам ёсьць змабілізаваць усе духовыя сілы і ў першую чаргу ўпарадкаваць і ўмацаваць рэлігійнае жыцьцё — гэтую невычарпальную крыніцу духовае сілы — такі ёсьць загад часу.

Чаму неабходна ў першую чаргу зьвярнуць увагу на мабілізацыю нутраных духовых сілаў? Бо так для ўсяго народу, як і для кожнага чалавека паасобку найгоршы вораг гэта ня той, што нападае звонку і руйнуе толькі матэрыяльныя вартасьці, але той, што раскладае жыцьцё чалавека знутра — гэткаю ёсьць дзейнасьць ляіцызму, які выключае паняцьце граху, патурае немаральнасьці, матэрыялізму і бязбожнасьці. Руйнацкая дзейнасьць гэтых сілаў ужо зайшла даволі далёка і гэта яна выклікае тое бязладзьдзе і неспакой на сьвеце, якога мы ёсьць сьведкамі.

Ад калі людзі заўважылі гэтую небясьпеку і пачалі шукаць рады, дык штораз часьцей можна пачуць нават з абыякавых калісьці кругоў словы і заклікі да шчырага выконваньня хрысьціянскае навукі, як адзінага ратунку для сьвету. З нязьлічаных заяваў у гэтай справе вельмі вымоўнымі ёсьць словы сучаснага нямецкага пісьменьніка Р. Шнайдэра: «Калі апошнія вякі маюць сказаць яснае слова, дык яно будзе гэткае: Толькі Ісус Хрыстос можа ўсьцерагчы сьвет ад упадку ў бязодню. Самі людзі гэтага ня змогуць».

Бязумоўна, што такія і падобныя ім нязьлічаныя заявы ёсьць прыгожымі словамі, але пакуль яны астаюцца толькі словамі, дык ад іх мала пацехі. Іх часта паўтараюць на сваіх старонках газэты і часапісы, а чытачы праз адно вуха іх прыймаюць, а праз другое выпускаюць і далей прадаўжаюць сваю старую песьню нараканьняў на тое, што ў сьвеце дзеецца дрэнна, а ў асабістым жыцьці яшчэ горш.

Для палепшаньня сучаснага становішча па-

трэбны чын, а ня толькі словы і нараканьні; асабліва ад гэтых апошніх няма ніякае пацехі, бо што за сэнс наракаць на нелады вакол нас тады, калі мы самі не ўпарадкоўваем свайго асабістага жыцьця? Як вымагаць ад іншых стараньняў для палепшаньня нашага жыцьця, калі мы самі ня выконваем усяго таго, што залежыць ад нас самых у гэтым кірунку?

Найбольш чуецца нараканьняў на грамадзкія справы; дзеля гэтага і зьяўляюцца розныя партыі, якія падаюць розныя праграмы быццам рэцэпты для аздараўленьня грамадзкіх неладоў. Але праграмы астаюцца праграмамі з больш або менш прыгожымі словамі, а нелады прадаўжаюцца. Ня трэба быць вялікім філязофам, каб зразумець, што ніхто ня зможа завесьці лад на сьвеце, не завёўшы яго перш у сваёй душы, у сваім я. Той, хто ня ўмее, ці яшчэ горш, ня хоча ўпарадкаваць сваіх асабістых адносін да Валадара сусьвету і да свайго бліжняга, тымбольш ня будзе ўмець наладзіць грамадзкага жыцьця.

Але што можа зрабіць для агульнага аздараўленьня ў гэтым палажэньні звычайны шэры чалавек? Можа шмат зрабіць. Усходняя мудрасьць кажа: «Замест таго, каб наракаць на цемру, лепш запаліць сьвечку». Вось гэта і ёсьць абавязак кожнага чалавека, запаліць сьвечку веры ў сваім сэрцы і неразлучацца з гэтым Божым сьветам нідзе. Даймо мейсца Богу ў нашым сэрцы, у нашых думках і ў нашай хаце. Чымбольш будзе гэткіх жывых сьветачаў, тым магутнейшым будзе іхны сьвет, ён адгоніць наступаючую цемру і асьвеціць нам яснейшы шлях да лепшае долі і волі народу.

**а. К. Рог.**

# Паходжаньне рэлігіі

Досьледы ў справе паходжаньня рэлігіі не належаць да тых, якія прычыняюцца да прыспораньня рэлігійнага жыцьця, але затое могуць выдатна прычыніцца да ўмацаваньня рэлігіі; і ўжо тым самым заахвочваюць, каб імі зацікавіцца бліжэй.

Перш аднак чым прыступіць да саме тэмы, варта выясьніць значэньне слоў: навука і рэлігія, бо ад іхняга дакладнага разуменьня шмат аблягчыцца разуменьне самое тэмы.

Навукай называецца дакладнае пазнаньне рэчаў у іхным прычыновым зьвязку. Дакладнасьць, або пэўнасьць пазнаньня адрозьнівае навуку ад звычайнае інфармацыі і прапаганды. Напрыклад інфармацыйныя бюро і агенцыі маюць шмат вестак аб сусьветных падзеях і плётках, але не зьяўляюцца навуковымі ўстановамі, а іхныя агенты і агітатары ня ёсьць навукоўцамі.

Рэлігіяй называюцца ўсе тыя вераваньні і практыкі, якімі чалавек выказвае прызнаньне Найвышэйшае Істоты і ўвайходзіць з Ею ў зьвязкі. У кожнай рэлігіі можна разрозьніць тры істотныя элемэнты: 1) прызнаньне надпрыроднае Сілы незалежнае ад нас, 2) пачуцьцё залежнасьці ад гэтае Сілы і 3) ўвайход у зносіны з Ею праз розныя абрады — культ. Звычайна рэлігія выклікае ўпарадкаваньне асабістага і грамадзкага жыцьця для ўстанаўленьня адносін з тою Сілаю.

Паколькі рэлігія адным сваім канцом ахоплівае ўсю істоту чалавека, а другім сягае аж да Бога, дык нічога дзіўнага, што яна ёсьць прадметам вывучэньня ня толькі багасловіі, але і сьвецкае навукі. Таму аднак, што пачаткі рэлігіі вельмі далёкія і глыбокія, дык перш чым сказаць сваё, хоць да нейкае ступені верагоднае слова, сьвецкая навука мусіла прарабіць вялікую дасьледчую працу. Але ўжо так ад вякоў вядзецца, што вучоныя на кожнай ступені сваіх досьледаў даюць нейкія адказы на пастаўленыя сабе пытаньні, а слабыя мейсцы ў адказах стараюцца прыкрыць рознымі выдумкамі, дагадкамі, гіпотэзамі. Гэтак было і ў справе адказу на пытаньне, адкуль паўстала рэлігія? Для выясьненьня гэтага пытаньня да гэтага часу створана не адна, а цэлыя дзесяткі розных гіпотэзаў: анімізм, магізм, прамагізм, тотэмізм, фройдызм, натурызм, нэанатурызм, соцыялягізм і т. д. Пералічаць іх тут усе і выясьняць было-б лішняю затратаю і часу і мейсца, бо бальшыня з іх як хутка зьявілася, так-жа хутка і зьнікла.

Звычайна гіпотэзы зьнікаюць у меру паглыбленьня навуковых досьледаў і награмаджэньня пераконваючых навуковых даных. Сягодня прагісторыя, этналёгія, археалёгія і псыхалёгія маюць даволі пераконваючыя даныя аб тым, што пачатак рэлігіі супадае з пачаткам чалавека. Але гэткі пагляд вельмі недаспадобы марксістам ды іншым бязбожнікам, дзеля гэтага яны стараюцца знайсьці за ўсякую цану нейкае такое выясьненьне пачатку рэлігіі, якое адказвала-б іхняй бязбожнай ідэалёгіі, або лепш кажучы стараюцца бараніць ставаю старую гіпотэзу створаную ўканцы мінулага стагодзьдзя.

Таму што цяпер найбольш актыўна выступаюць супраць рэлігіі бліжэйшыя і далейшыя пасьлядоўнікі Маркса, дык перш чым падаць выясьненьне каталіцкіх вучоных аб пачатку рэлігіі, разглянем у галоўных рысах тое, што кажуць у гэтай справе марксісты.

За часоў Маркса была толькі што зьявілася новая галіна навукі: этналёгія — навука аб фармаваньні і характары першабытных людзкіх пляменьняў. Так як і кожная маладая навука, падоб-

на і этналёгія спачатку мела празмерныя амбіцыі, маючы замала фактаў і яшчэ менш адпаведных глыбокіх назіраньняў над імі. Тагачасныя этналёгі ўважалі, што быццам ёсьць некаторыя дзікія людзкія пляменьні пігмэяў, напр. Банту ў Афрыцы, Арунта ў Аўстраліі і ўсе Андамандзкія пігмэі, якія ня маюць ніякае рэлігіі. Марксу гэткае цьверджаньне было вельмі на руку і ён доўга ня думаючы, зрабіў з яго дыялектычны высьнавак, а ягоныя пасьлядоўнікі гэты выснавак далей разьвілі ў тым сэнсе, што быццам першапачаткава чалавек мусіў быць безрэлігійным і што рэлігія не належыць да істотных патрэбаў людзкое натуры, а зьявілася яна ў выніку пазьнейшага разьвіцьця чалавека, але быццам канчаткова чалавек зноў мае вярнуцца да безрэлігійнага стану. У гэтым цьверджаньні памылка едзе на памылцы і памылкай паганяе.

Пазьнейшыя і сапраўды навуковыя досьледы аднагодна запярэчылі існаваньне безрэлігійных пляменьняў і ўва ўсіх, нават найбольш адсталых пляменьняў, выяўлена рэлігія, хоць і з вельмі грубымі формамі. Багаты даказовы матэрыял адносна гэтае справы знайходзіцца ў творах В. Шмідта «Аб пачатках і эвалюцыі рэлігіі». Сучасныя досьледы прыносяць гэтых доказаў штораз больш і адначасна выяўляюць, чаму ў некаторых дзікіх пляменьняў першыя дасьледнікі не заўважылі рэлігіі. Напрыклад пігмэі цэнтральнае Афрыкі, якія абажаюць боства Аніямбо, кажуць: «гэта бог няроб; ён, стварыўшы сьвет, кудысьці адышоў і заняўся іншаю працаю». Плямёны Банту кажуць: «Нцамбі нас пакінуў, дык нашто мы будзем ім займацца». Племя Бэрэрос выясьняе занедбаньне культу да Бога інакш: «Ён добры, не такі, як духі, дык няма патрэбы Яго задобрываць». Падобныя пагляды можна знайсьці і ў іншых на першы пагляд «безрэлігійных» пляменьняў, але культ у іх ёсьць, толькі што перанесены на духаў і на тотэмаў. Гэтае перанясеньне культу ёсьць вытварам пазьнейшага рэлігійнага зняпаду.

Каб абмінуць гэтыя факты, бязбожніцкая прапаганда апошнім часам ужо не называе паіменна бязрэлігійных пляменьняў, а кладзе большы націск на тое, што гэта быццам «першапачатковыя людзі, як: пітэкантропос-малпалюд, сінантропос-кітаялюд і гайдэльбэрзец — былі напэўна безрэлігійнымі». Памінаючы навейшыя даныя з прагісторыі, кожны сумленны чалавек можа і мусіць спытацца марксістаў: як можна рабіць так далёкасяжныя высьнаўкі аб гэтых «людах», калі агулам само людзтва пітэкантрапа вельмі няпэўнае і калі да гэтага часу знойдзена ягоныя чатыры вельмі няпоўныя рэшткі чарапоў і некалькі костак з касьцяку, зьмешаныя з косьцямі іншых жывёлаў? Яшчэ горш маецца справа з гайдэльбэргцам, ад якога знойдзена ўсяго толькі адну пашчэнку бяз ніякіх іншых дадаткаў. Што могуць сказаць гэтыя косьці аб безрэлігійнасьці ці рэлігійнасьці іхных уласьнікаў?

Вось-жа самыя факты, на якіх апірае марксізм сваю гіпотэзу ёсьць і няпоўныя і непраўдзівыя, дык якія могуць быць іхныя высьнаўкі? Але ня толькі гэта ёсьць слабым мейсцам у іхняй гіпотэзе; іхныя меркаваньні яшчэ слабейшыя і пярэчаць самі сабе на кожным кроку. Марксізм прыймае, што ўвесь сьвет і людзі падлягаюць эвалюцыі; дык як-жа з гэткага становішча можна паясьніць, што нейкія людзкія пляменьні маглі-б астацца «на першапачаткавай безрэлігійнай ступені» з боку ад эвалюцыі? Калі-б такія пляменьні сапраўды існавалі яшчэ ў 19 стаг., дык з гледзішча марксізму іх трэба было-б уважаць ня дзікімі пляменьнямі, але найбольш разьвітымі людзьмі, якія дайшлі да канчатковае стадыі разьвіцьця. Бо і сапраўды пляменьні з грубымі рэлігійнымі формамі, якіх калісь уважалі безрэлігійнымі, знайходзяцца ў канчатковай стадыі выміраньня, але ня дзякуючы сваёй высокай культурнасьці, толькі з прычыны дэгэнэрацыі, якая знайшла свой выяў і ў згрубеньні рэлігійнага жыцьця. Напрыклад племя Мінкопаў на Андаманскіх абтоках у 1858 г. налічвала каля 5.000 чалавек, у 1911 толькі 1.317, а цяпер усяго 450. Племя Арунта ў Аўстраліі ўканцы мінулага стагодзьдзя мела каля 2.000 чалавек, а цяпер зусім на выміраньні. Досьледы над мовамі гэтых пляменьняў і іхным грамадзкім ладам выяўляюць, што іхняя культура калісьці мусіла быць шмат вышэйшаю, чым цяпер.

Але йдзем да самага істотнага: што кажуць марксісты на пытаньне: адкуль, калі і як паўстала рэлігія? Маркс не ўсыстэмізаваў свайго пагляду ў гэтай справе, ён проста выступаў супраць рэлігіі, бо яна пярэчыла ягонай сацыяльнай тэорыі. Ён казаў: «Рэлігія — гэта стогн прыгнобленага стварэньня». Уласьцівы пагляд марксізму аб паўстаньні рэлігіі сфармулаваў Ленін. Ён казаў: «Бясьсільле дзікара ў барацьбе з прыродаю родзіць веру ў Бога, чарцей ў цуды і пад.». На іншым мейсцы ён казаў карацей: «Страх стварыў багоў». Гэты адказ Леніна бязбожніцкая прапаганда паўтарае, як бясспрэчную праўду, хоць у ім поўна недарэчнасьцяў. Бо як-жа можна гаварыць, што бясьсільле і страх родзяць веру ў Бога, калі адначасна вышукваецца нейкіх дзікароў, якія мелі-б да навейшых часоў астацца безрэлігійнымі, хоць яны сапраўды бясьсільныя супраць прыроды? Эўрапэйцы, а з імі іншыя культурныя народы даўно страцілі страх перад прыродаю, нават ў шмат якіх выпадках апанавалі яе і часткава падпарадкавалі сабе на службу, а міма гэтага ня толькі захавалі сваю рэлігійнасьць, а нат значна паглыбілі

яе. Жывёлы зусім бясьсільныя перад прыродаю і маюць страх перед яе стыхіямі, але рэлігіі ня маюць, бо рэлігія сьцісла зьвязана з ідэяю надпрыроднае сілы, якое ня могуць вытварыць, ані страх, ані бясьсільле; наадварот страх вытварае паніку, якая так зьменшвае разумовыя здольнасьці чалавека, што часам гаворыцца аб жывёлінным страху. Страх у меншай ступені можа даць чалавеку штуршок зьвяртацца да Бога, «Як трывога, дык да Бога», але тут бачна, што перш, чым зьвяртацца Бога, трэба ведаць аб Яго існаваньні. Да таго найвыдатнейшыя вучоныя якія найлепш пазнаюць прыроду і знайходзяць спосабы яе апанаваньня, звычайна стаюцца тымбольш рэлігійнымі, чым дакладней пазнаюць прыроду. Да гэтага ўсяго можна яшчэ заўважыць, што сучасныя грамадзяне СССР зусім бясьсільныя супраць МВД (НКВД) і маюць вявымоўны страх перад ягонымі агэнтамі, але не абажаюць яго; наадварот, гэты страх якраз абумоўлівае распаўсюджаньне бязбожніцтва ў СССР, адбіраючы адвагу і магчымасьць выявіць недарэчнасьці бязбожніцкае прапаганды.

Аб часе зьяўленьня рэлігіі марксісты кажуць: рэлігія зьявілася тады, калі ў чалавека да пэўнае ступені разьвіўся розум. У гэтым сказе ёсьць праўда, але так-жа толькі да пэўнае ступені, бо па-першае трэба было-б выясьніць: што гэта быў за чалавек з неразьвітым розумам, а па-другое: трэба выясьніць, што выклікала разьвіцьцё розуму? На першае пытаньне хіба трэба было-б шукаць адказу ў спамінаных перш малпалюдах, а на другое пытаньне яны адказваюць так: «Розум стаў разьвівацца ў чалавека ў меру таго, як ён, у адрозьненьне ад жывёлы, навучыўся актыўна ўзьдзейнічаць на прыроду і зьмяняць яе» (В. К. Никольский — Происхождение религии. Москва, 1949 г. с. 32). Дзіўна, як мог чалавек вучыцца разьвіваць розум, ня маючы настаўніка з больш разьвітым розумам? Гэта адно, а другое: калі паўстаньне рэлігіі зьвязана з разьвіцьцём розуму, дык як можна дапускаць, што пры далейшым разьвіцьці розуму рэлігія мела-б зьнікнуць? Хіба наадварот! Бабры ад пачатку свайго існаваньня ўмеюць актыўна ўзьдзейнічаць на прыроду, будаваць гаці на рэках, тварыць вазёры, будаваць сабе хаткі, чаго ня ўмеюць некаторыя пляменьні пігмэяў, і міма гэтага ўсяго «розум» баброў не разьвіваецца і рэлігіі яны ня маюць.

Далей Маркс, а за ім усе ягоныя пасьлядоўнікі, цьвярдзілі, што рэлігія падтрымоўваецца эксплаататарамі. Гэта так-жа няпраўда, бо напрыклад хрысьціянства пачало разьвівацца ў эксплаатаваных клясах, а эксплаататары замест падтрыманьня яго крывава прасьледавалі. Потым у XVIII веку найбольшую бязбожную прапаганду вяла група францускіх энцыклёпэдыстаў, якія ўсе былі выхадцамі з клясы буржуяў, вось-жа эксплаататараў. Ды агулам тыпічна эксплаататарская сыстэма — капіталізм у сваёй сутнасьці ёсьць наскрозь бязбожнай сыстэмай, тады калі згодна з марксізмам яна мусіла-б быць рэлігійнай.

Марксізм праракуе, што зьнішчыўшы клясы, а тымсамым і эксплаатацыю, рэлігія павінна зьнікнуць. І гэта няпраўда, бо ў XVII стаг. на абшары езуіцкае місіі ў Парагваі было створана сапраўды бясклясавае грамадзтва і гэта выклікала прыгожы росквіт рэлігійнага жыцьця ды сталася сольлю ў ваччу якраз для гішпанскіх эксплаататараў, якія не пашкадавалі стараньняў, каб зьнішчыць гэты прыгожы твор. А з другога боку сучасная бальшавіцкая прапаганда галосіць усюды, што ў СССР ужо зьліквідаваны клясы і тым самым «зьліквадаваны сацыяльныя карэньні, якія родзяць і кормяць рэлігію», аднак ня гледзячы на гэта яны-ж мусяць прызнацца, што «ў СССР яшчэ ёсьць нямала людзей, якія канчаткова ня вызваліліся ад рэлігійных перасудаў і забабонаў. Рэлігія трыўка прычэпная і жывучая, яна далей існуе, як пeражытак мінулага» (Больш. Сов. Энциклопедия, Москва 1950, т. 3. с. 353). Вось-жа ясна, што нешта няспраўна ў марксіцка-ленінскай тэорыі аб паўстаньні рэлігіі, бо як можа нешта існаваць пазбаўленае свайго карэньня? Мусіць гэтыя карэньні шмат глыбейшыя, як сацыяльныя адносіны, бо якіх толькі сацыяльных зьменаў не перажывала людзтва за час свайго існаваньня, а рэлігія, як існавала ад вякоў, так і цяпер існуе! Яе карані не дасягальныя для ніякае людзкое сілы.

Тут коратка разгледжана толькі адну з бязбожных гіпотэзаў штода паходжаньня рэлігіі, якая цяпер найболыш прапагуецца. У іншых падобных гіпотэзах ёсьць яшчэ больш супярэчнасьцяў і няпраўды, дык каб дарэмна не расьцягаць і так вялікага артыкулу, зьвернемся да пагляду сапраўдных вучоных, што яны кажуць аб паходжаньні рэлігіі?

Рэлігія ня ёсьць вынікам ніякага доўгага разьвіцця чалавека. Ад калі чалавек ёсьцць чалавекам, ад тады ён ёсьць рэлігійнаю істотаю. Найглыбейшыя і сапраўдныя карані рэлігіі знайходзяцца ў той праўдзе, што існуе Бог, Які стварачы людзкую душу, даў ёй нязьнішчальнае імкненьне да пазнаньня Стварыцеля і любові да Я г о. Ад Бога чалавек атрымаў здольнасьць пазнаваньня сьвету і ўспрыйманьня вышэйшых ідэяў; дзякуючы гэтым здольнасьцям, чалавек пазнае Бога праз акружаючую прыроду і адчувае Яго голас у сваім сумленьні, а паглыбляе гэтае пазнаньне дзякуючы надпрыроднаму аб'яўленьню, якое даваў Бог праз выбраных людзейпрарокаў. Адначасна з пазнаньнем Бога ствараецца культ для Яго; значыць рэлігія ёсьць так старая, як самое людзтва. Дзеля гэтага нельга

гаварыць аб асноўніках рэлігіяў у дакладным значэньні гэтага слова, бо гэткіх людзей, асноўнікаў рэлігіяў, ня было, а былі толькі людзі, якія ў некаторым сэнсе афармлялі рэлігіі.

Хрыстос у адрозьненьне ад іншых даў абсалютную, або інакш кажучы, канчатковую форму рэлігіі ў хрысьціянстве, але Ён быў Богачалавекам.

У сівой мінуўшчыне яшчэ перад Хрыстом адзін з слаўных рымскіх дзеячоў і філёзофаў Цыцэрон (104-43) казаў: «Ёсьць народы, якія ня маюць гарадоў, умацаваньняў, муроў, але няма такога народу на ўсім сьвеце, які-б ня меў рэлігіі». Сучасны стан навукі асабліва прагісторыі, этналёгіі і археалёгіі аднагодна падцьвярджаюць гэтую думку і даюць нязьбітыя доказы аб рэлігійнасьці найстарэйшых людзей.

На кангрэсе нямецкіх прагісторыкаў у Майнц, які адбыўся ў 1950 г. былі паданыя да ведама матэрыялы з раскопкаў у Сан Гален (Швайцарыя), дзе знойдзена магілы найстарэйшых людзей у Эўропе, а ў магілах знойдзена ахвярныя судзіны і прылады культу. Адкрыцьці з іншых мейсцаў Эўропы і Афрыкі так-жа сьцьвердзілі, што людзі ледавіковага пэрыяду верылі **ў аднаго Бога** і аддавалі Яму пашану. Значыць найстарэйшыя людзі ня толькі мелі рэлігію, але гэтая рэлігія была монотэістычная (аднабожная).

Паганства з сваім многабоствам зьявілася значна пазьней у выніку рэлігійнага заняпаду, аб якім можна знайсьці сьведчаньні нават у Біблії, дзе гаворыцца аб сусьветным патопе і пакараньні Садомы і Гаморы. Аднак ніякі ўпадак не пазбаўляе чалавека ягонага чалавецтва, ня зьнішчае сумленьня, якое ніколі ня супакойваецца не асягнуўшы свае канчатковае мэты — Бога.

Ужо той сам факт, што бязбожнікі ніколі ня могуць супакоіцца з сваею прапагандаю і бязупынку шукаюць розных новых доказаў для заспакаеньня свайго сумленьня, сьведчыць супраць бязбожніцкае прапаганды, бо з няіснуючымі рэчамі нельга змагацца. Калісьці Каін, забіўшы свайго брата Авеля, уцякаў ад Бога; падобна і бязбожнікі, якія ў часе рэвалюцыі і цяпер нішчаць мільёны нявінных ахвяраў, стараюцца ўцячы ад Божага суду і заглушыць голас свайго сумленьня бязбожнаю прапагандаю. Слушна аднак кажа ведамы этналёг Ван дэр Леэув: «Чалавек, які ня хоча быць рэлігійным, праз гэтую самую волю стаецца ім. Ён можа ўцякаць ад Бога, але ня мае магчымасьці ад Яго выкруціцца».

Хто летам ня бачыў мухаў на ваконных шыбах?! Мухі ня бачаць шкла, б'юцца і таўкуцца аб яго цэлымі днямі, стараючыся вылецець на двор. Для іх шкло стаецца нябачнаю перашкодаю, якую яны адчуваюць, але ня могуць і ня ўмеюць з ёю пагадзіцца. Падобна і бязбожнікі з сваею прапагандаю, яны раз-у-раз напатыкаюцца на нябачныя перашкоды, адчуваюць бясьсільнасьць сваіх доказаў, але пачынаюць паўтараць іх нанова, каб перашкодзіць сваёй душы ў яе імкненьні да свайго Стварыцеля.

Пакольки чалавек ёсьць чалавекам, патольки ён ёсьць рэлігійнаю істотаю, бо карэньні рэлігіі ўложаны Богам у душу чалавека адначасна з іншымі людзкімі асаблівасьцямі. Так як з усіх істотаў на зямлі толькі чалавек мае розум і волю, так сама толькі чалавек мае рэлігію. Дык найбольш разумна і палюдзку для чалавека не ўцякаць ад Бога, ня цурацца рэлігіі, але паглыбляць яе згодна з Божаю воляю.

**а. Лазар.**

# Кіеўская Мітраполія ў другой палавіне XVIII стаг.

(Працяг 2)

### Уладзімерская і Берасьцейская епархіі.

Абедзьве названыя епархіі слаўныя дзеля іхняга біскупа Гіпація Пацея і дзеля самога Берасьця, дзе ў кастрычніку 1596 г. было абвешчана злучэньне Беларускае Усходняе Царквы з Рымам. Аб абедзьвех гэтых епархіях ёсьць вартасныя і цікавыя дакуманты, нікім з гісторыкаў да гэтага часу ня выкарыстаныя. Адным з іх ёсьць г. зв. «Нясудовая інфармацыя», напісаная ў 1756 г. на жаданьне Рымскае Кангрэгацыі «Для Прапаганды Веры», каторая ў той час з даручэньня Сьвяцейшага Айца кіравала Беларускай Каталіцкай Царквою ўсходняга абраду. Цяпер знайходзіцца гэтая «Інфармацыя» ў архіве ўспомненае Кангрэгацыі. (1) Беспасрэднаю прычынай паўстаньня «Нясудовае Інфармацыі» былі непаразуменьні між парахамі і іхным біскупам Тэофілем Годэбскім († 1755). (2). Царкоўнае следзтва ў гэтай справе вялося пасьля сьмерці біскупа гэнэральным афіцыялам луцкім Людовікам дэ Ріанкор біскупам Полё-Птолёміданскім.

1) «Informatio Extrajudicialis ex mandato Sacrae Congregationis de Propaganda Fide, vigore porrectorum ad Sanctissimum Dominum Nostrum per parochos contra Rev-mum Dominium Episcopum Vladimirensem ac Brestensem in anno 1756 inchoata». Arch. Prop. F., Udienze di Nostro Signore an. 1755-59, t. 8, ff. 270-278 v.

2) Podręczna Enc. Kościelna, t. 13-14, Warszawa 1907, 212-213.

Другім дакумантам ёсьць заява сьвятароў Берасьцейскае епархіі з дня 22 красавіка 1780 г., зложаная на рукі Апостальскага Нунцыя І. А. Архетті. Яна знайходзіцца ў Ватыканскім Архіве. (3).

З успомненых вышэй дакумантаў, мы даведваемся лік дэканатаў і бальшыню парахвіяў з іхнымі парахамі ў абедзьвех епархіях.

Уладзімерская епархія налічвала ў тым часе 8 дэканатаў, якія абымалі 196 парахвіяў (у дакуманце паіменна пераліч́аны толькі 133), Берасьцейская епархія мела 10 дэканатаў, якія абымалі 257 парахвіяў (у дакуманце паіменна названы 251). Гэта нам паказвае, што пад юрысдыкцыяй Уладзімерскага біскупа ў другой палавіне XVIII стаг. разам знаходзілася 18 дэканатаў, якія абымалі 453 парахвіі.

Вялічыня дэканатаў была даволі розная, лік парахвіяў у іх хістаўся ад 14 да 43. У **Уладзімерскай епархіі** яны былі разьмеркавы гэтак: Уладзімерскі дэканат 38, Парэцкі 14, Кіселіцкі 22, Тужынскі 14, Торожыцкі 31, Локацкі 14, Ковэльскі не падаецца лік, Камень-Кашырскі не падаецца лік — разам 133 парахвіі. Але пры канцы «Нясудовае Інфармацыі» гаворыцца што епархія налічвае 196 парахвіяў, значыць 63 парахвіі павінны былі належаць да Ковэльскага і Камень-Кашырскага дэканатаў. Гэтыя лікавыя даныя падцьвярджае так-жа І. А. Савіцкі ўладзімерскі афіцыял у сваім лісьце да Апостальскага Нунцыя з дня 15 кастрычніка 1781 г., каторому пісаў: «Уладзімерская епархія маленькая, парахвіяльных цэркваў налічвае толькі 200...» (4).

У **Берасьцейскай епархіі** былі такія дэканаты: Бельскі 21, Берасьцейскі 43, Бела (Падляскі) 25, Пружанскі 18, Кобрынскі 27, Уладаўскі 21, Палескі 19, Драгічынскі 21, Каменецкі 36, Мельніцкі каля 20 — разам 251 парахвія, але пры канцы дакуманту падаецца лік парахвіяў 257 (5). Да якіх дэканатаў трэба было-б далічыць 6 парахвіяў, ня зусім ясна, праўдападобна да Мельніцкага.

Паданы вышэй лік парахвіяў для абедзьвех епархіяў: 453, вельмі розьніцца ад таго, які ў 1664 г. падаваў Холмскі біскуп Якуб Суша, а перад ім ў 1647 г. якісьці ананімны аўтар. Першы з іх цьвярдзіў, што Уладзімерская епархія мае найменш 1.000 парахаў, а другі пісаў у Рым інфармуючы, што яна мае больш, чым 1.000 цэркваў (6).

З іхнымі цьверджаньнямі нельга згадзіцца, хутчэй трэба прызнаць, што яны, калі пісалі свае справаздачы, ня мелі дакладных дадзеных аб стане Уладзімерскае епархіі. Бо-ж нельга пагадзіцца з думкай, што ў XVII стаг. успоменая епархія налічвала ўдвойчы больш парахвіяў, чым у XVIII стаг., гэта было-б гістарычнаю недарэчнасьцю.

Паводля «Нясудовае Інфармацыі» усе даходы Уладзімерска-Берасьцейскага біскупа ў год даходзілі да 6.000 рымскіх фунтаў, што прыблізна адказвала-б тысячы сучасных ангельскіх фунтаў.

### Луцкая епархія.

Гэтая епархія толькі на пачатку XVIII стаг. прылучылася да Каталіцкае Царквы, калі яе пасад займаў біскуп Дыянізі Жабокрыцкі. Луцкія ўладыкі ад XVI в. мелі яшчэ тытулярную Астрожскую епархію і самі мелі тытул Экзарха. Экзарх — слова грэцкае. У даслоўным тлумачэньні яно азначае ўладар. Звычайна экзарх быў галавою незалежнае Царквы. Назначаўся ён Канстантынопальскім Патрыярхам, або Папаю, залежна ад таго, ці даная Царква была праваслаўнаю, ці каталіцкаю. Першым Экзархам для Беларусі і Украіны быў біскуп Кірыла Тэрлецкі, каторага назначыў канстантынопальскі патрыярх Ерэмія II, 11 жніўня 1589 г. (7). Быў ён у той час заступнікам Патрыярха і меў права ня толькі ўгляду у справы беларуска-украінскага епіскапату, але так-жа мог судзіць і караць. Потым аднак гэтая годнасьць сталася выключна тытулярным упрыгожаньнем луцкіх біскупаў, каторыя, падобна як і ўсе іншыя уніяцкія ўладыкі, залежалі ад Кіеўскага Мітрапаліта.

У 1772 г. часьць луцкае епархіі адыйшла да Аўстрыі. Перад гэтым годам яна налічвала каля 1.300 парахвіяў, з якіх 200 адыйшло да Аўстрыі, аднак праўна аж да 1783 г. яны належалі да юрысдыкцыі Луцкага біскупа, пражываючага ў Рэчыпаспалітай. Пасьля за тыя парахвіі ў Аўстрыі ўзьнікла спрэчка паміж Львоўскім біскупам П. Белянскім і Луцкім біскупам Ц. Стэцкім. Спрэчцы палажыў канец дэкрэт сьвецкае ўлады ў 1785 г., ў сілу якога Львоўскі біскуп павінен быў узяць спрэчныя парахвіі пад сваю юрысдыкцыю. Гэта было на руку ня толькі Львоўскаму біскупу, але і аўстрыйскай палітыцы, каторая адкідала ўсякае ўмешваньне ў царкоўныя справы біскупаў, пражываючых у Польшчы. (8).

З кананічных допытаў, праведзеных ў 1784 т. у сувязі з назначэньнем на Луцкага біскупа а. М. Стадніцкага, даведваемся, што ў тым часе ані ў Луцку, ані ў Астрозе ня было біскупскага палацу, замяняў яго нейкі дзеравянны, але даво-

3) Vatykanski Archiu, Nunz. di Vars., t. 147, f. 613 v.

4) ibid. f. 62.

5) Informatio Extrajudicialis, Arch. Prop. F., Udienze di Nostro Signore an. 1755-59, t. 8, f. 278 v.

6) Praszko, De Ecclesia Catholica Ruthena, Romae 1944, 12.

7) G. Hofmann, Wiedervereinigung der Ruthenen, Orientalia Christiana, t. III-2 (1925) 139, nota 3.

8) Arch. Prop, F., Scritt. Rif. C, G., t, 865, ff, 24, 28. Vatykanski Arch. Nunz. di Vars., t. 149, ff, 59, 57,

лі выгадны дом у Жабчы і ў Розішчах. Гадавы даход біскупа раўняўся 20.000 польскіх флёрэнаў, што адказвала-б прыблізна 9 тысяч сучасных ангельскіх фунтаў. (9).

### Холмская епархія.

Пасьля першага падзелу Рэчыпаспалітае гэтая епархія, падобна як іншыя, вельмі зьменшылася. У 1785 г., калі Хведар Ростоцкі абымаў ейны біскупскі пасад, налічвалася ў ёй усяго 162 парахвіяльныя цэрквы. Усіх даходаў ня было больш, як 900 польскіх флёрэнаў, а расходы сягалі 800 флёрэнаў, дык самому біскупу аставалася ўсяго 100 фл. на цэлы год (10).

Як жылося ў той час холмскім біскупам? Аб гэтым мала што ведама. Да нас дайшлі лісты яе двох слаўных біскупаў: успамінанага ўжо Хведара Ростоцкага і Максімільяна Рылы, але іхны зьмест вельмі нязгодны між сабою.

Рыло пісаў да Калеппі ў Рым дня 21 лістапада 1779 г.: «Найшчасьлівейшая, хаця і найбяднейшая ёсьць мая Холмская епархія...» (11).

Наадварот Хведар Ростоцкі, ён незадаволены з сытуацыі ў сваёй епархіі, а прычына гэтага: бяднота, бо найбольш даходныя землі адыйшлі да Аўстрыі. Жаліўся аб гэтым дня 15 сьнежня 1786 г. і 4 лютага 1787 г. Апостальскаму Нунцыю. (12).

9) Arch. Prop. F. Scritt. Rif. C. G., t. 865, ff, 23v-24.
10) Vatykanski Arch., Nunz. di Vars., t. 149, ff. 90-99v.
11) Arch. Prop. F., Scritt. Rif. Cogr., t. 14, f. 39.
12) Vatykanski Arch., Nunz. di Vars., t. 149, ff. 426-429.

У Холме быў катэдральны сабор у чэсьць Нараджэньня Багародзіцы, вымураваны ён быў з паленае цэглы ў прыгожым стылі, але звонку вымагаў рамонту. Ля сабору быў біскупскі дом, але таксама падупаўшы.

У Холме была так-жа сэмінарыя, дзе ў 1785 г. жыло і вучылася 10 сэмінарыстаў. (13).

Тут варта зацеміць, што аб Холмскай епархіі ёсьць вельмі мала навуковых працаў, а і тыя, што ўжо напісаныя, не заўсёды заслугоўваюць на поўны давер.

### Пінская епархія.

Нажаль аб гэтай епархіі нам нічога не ўдалося знайсьці ці то ў архівах, ці ў навуковых працах, што адносілася-б да яе стану ў другой палавіне XVIII стаг. Паўторым толькі тое, што падае а. Прашко. (14).

Паводля дадзеных, якія ён змог знайсьці аднюсна XVII стаг., Пінская епархія налічвала ў 1647 г. найменш 500 цэркваў. Гэтак было перад казацкімі войнамі, але пасьля іх у 1664 г. біскуп Суша падаваў лік усіх сьвятароў толькі 100 чалавек. Гэта сьведчыла-б аб тым, як была зьнішчана епархія ў часе гэтых войнаў.

Маючы на ўвазе вышэй сказанае можна зарызыкаваць цьверджаньне, што ў другой палавіне XVIII стаг. Пінская епархія магла залячыць ваенныя раны і разрасьціся да якіх 1.000 каталіцкіх парахвіяў усх. абраду.

**а. Ч. Сіповіч.**

13) ibid. ff. 96, 99 v.
14) Praszko, De Ecclesia Ruthena Catholica, Romae 1944, 12.

(Далей будзе)

# Выдатны юбілей

**25-годзьдзе архіпастырства Я. Э. Балеслава Слосканса.**

Сёлета 10-га траўня споўнілася 25 гадоў архіпастырскае працы Я. Э. Балеслава Слосканса тытулярнага біск. Цільлійскага Апостальскага Адміністратара Менскага і Магілёўскага. Азначаючы гэты выдатны юбілей варта прыпомніць хоць галоўныя мамэнты з цяжкога і цярністага жыцьцёвага шляху Юбілята.

Я. Э. Балеслаў Слосканс па нацыянальнасьці латыш, радзіўся ён 7 жніўня 1893 г. у Стэрнянах пад Рэжыцай у небагатай сялянскай сям'і. Духоўную асьвету атрымаў у Каталіцкай Духоўнай Акадэміі ў Пецярбурзе, у якую ўступіў 1911 г. Сьвятарскія сьвячаньні атрымаў напярэдадні расейскае рэвалюцыі 21.1.1917 г. Малады духоўны адразу пасьля сьвячаньня займаў розныя адказныя становішчы ў Магілёўскай Мітраполіі і ўсюды азначаўся шчыраю душпастырскаю працаю і тактам — гэтым зьвярнуў на сябе ўвагу духоўных уладаў. Калі ў 1926 г. Апостольскі Пасад, не зважаючы на вялікую рызыку, наважыўся нанава ўстанавіць, зьнішчаную бальшавікамі, ерархію Каталіцкае Царквы ў СССР, дык між іншымі кандыдатамі на біскупаў, быў назначаны так-жа а. Слосканс. Тады якраз Апостальскі Пасад атрымаў дазвол выслаць сваю місію ў СССР на чале з Я. Э. д'Эрбіні, каторы 10-га траўня ўдзяліў Я. Э. Слоскансу біскупскія сьвячаньні, як тытулярнаму біскупу Цільлійскаму. Таго-ж 1926 г. 13 жніўня Я. Э. Слосканс назначаецца Апостальскім Адміністратарам Магілёўскае Мітраполіі і Менскае суфраганіі. Але нядоўга ён змог кіраваць давeранаю сабе мітраполіяю; не-

калькі дзён пасьля прыезду ў Магілёў тагачасныя агэнты ГПУ яго арыштавалі пад звычайным трафарэтным закідам шпіянажу і бяз суду прыгаворваюць яго самі на 3 гады катаржнае працы на Салавецкіх абтоках.

У тым часе на Салоўках было некалькі дзясяткаў каталіцкіх сьвятароў, для іх Я. Э. Слосканс стаўся сапраўдным духоўным айцом і жывым прыкладам вытрываласьці і цярпеньня. Ён згуртаваў іх каля сябе ў неафіцыяльны гурток самапомачы ў шчырым хрысьціянскім духу і супольнымі сіламі, яны маглі тайна адпраўляць Службу Божую.

Адбыўшы тры гады катаргі на Салоўках, восеньню 1930 г. ён вярнуўся ў Магілёў, каб зноў заняцца душпастырскаю працаю між сваіх вернікаў. Але даслоўна 10 дзён пасьля прыезду, яго зноў атрыштавалі і саслалі ў Сібір. Падарожжа на засланьне прышлося адбываць этапамі, дзеля гэтага толькі ў сакавіку 1931 г. ён прыбыў у Енісейск. Адгэтуль пасьля двох месяцаў яго пераводзяць у Старо-Юруханск, а на новы 1932 год у Краснаярск. Там ён мусіў сам знайсьці спосаб пражыцьця, пераважна займаючыся рыбалоўствам, паводля прыкладу апосталаў.

У Краснаярску давялося «гасьцяваць» у турме роўна адзін год, а на пачатку студзеня 1933 г. яму абвесьцілі, што мае быць перавезены ў Маскву. Гэтае падарожжа адбыў чыгункаю. Прабыўшы тыдзень у Маскоўскай турме, дня 20 студзеня яго паклікалі на суд, дзе на вялікую неспадзеванку Я. Э. Слосканса чакаў пасол латвійскага ўраду, які паведаміў яму, што дзякуючы стараньням латвійскага ўраду і Апостальскага Пасаду савецкі ўрад згадзіўся выменіць яго на аднаго камуніста і дзеля гэтага ўжо заўтра можа выехаць у Рыгу. Не адразу згадзіўся ён прыняць гэтую радасную прапанову, кажучы, што мае абавязак сьцерагчы даручаную сабе паству і калі цяпер разлучаны ад яе турэмнымі кратамі, дык усё-ж вернікі ведаюць, што іхны архіпастыр іх не пакінуў і за іх цярпіць і моліцца. На гэтую ўвагу пасол выясьніў, што воля Сьвяцейшага Айца ёсьць такая, каб скарыстаць з магчымасьці выйсьці з турмы і пасьпяшыць прыехаць у Рым. Воля Вярхоўнага Архіпастыра была выканана і праз два дні Я. Э. Слосканс быў ў Рызе, а 30 сакавіка таго-ж 1933 г. ён быў урачыста вітаны ў Рыме. Узрушаючаю была сцэна прывітаньня з Сьвяцейшым Айцом. У Рыме Я. Э. Слосканс прабыў некалькі месяцаў. Дня 5 красавіка ён атрымаў высокае адзначэньне Асыстэнта Папскага Трону. З Рыму ён робіць невялікае падарожжа па Зах. Эўропе і вяртаецца ў Рыгу, дзе прабыў аж да 1944 г., працуючы ў Сэмінарыі і Унівэрсытэце.

Характэрна, што ў часе нямецкае акупацыі гітлераўскія ўлады рабілі Я. Э. Слоскансу усякія перашкоды, каб унемагчыміць выконваньне архіпастырскіх абавязкаў на Беларусі.

Знайшоўшыся на эміграцыі, Я. Э. Слосканс памагаў, колькі мог, беларусам. У 1947 г. яго дэлегаваў Апостальскі Пасад візітаваць беларускія асяродкі ў Францыі, Бэльгіі і Нямеччыне; яго ўсюды радасна віталі беларусы бяз розьніцы веравызнаньня і гэтае спатканьне пакінула ўва ўсіх сьветлыя ўспаміны. Ягоныя бацькаўскія турботы нямала прычыніліся да таго, што беларускаю справаю зацікавіліся больш ня толькі ў рэлігійных, але і дзяржаўных кругох вольнага сьвету.

Адзін з найбольшых сучасных беларускіх студэнцкіх цэнтраў — Лювэн ці не ў найбольшай ступені заўдзячвае сваё існаваньне Я. Э. Слоскансу, таму і ягоны юбілей ушанавалі сёлета 29 траўня беларускія студэнты ў Лювэне ўрачыстаю акадэміяю. (Весту аб гэтым гл. у хроніцы).

**Ч. Праневіч.**

### АД РЭДАКЦЫІ.

Азначаючы гэты выдатны юбілей, мы ня можам забыцца. што сёньня на бацькаўшчыне пустуе каталіцкі мітрапалічы пасад і ўсе біскупскія пасады. Але мы моцна верым, што вернікі штодня шлюць да Бога шчырыя малітвы і просьбы, каб хутчэй спаткацца з сваім архіпастырам; усёй душой далучаемся да гэтых малітваў, каб Госпад Бог хутка ўладзіў ваварат Я. Э. Балеслава Слосканса да даручанае яму паствы і даў сілу і моц працаваць там даўжэйшыя і шчасьлівыя гады.

**Рэдакцыя «Божым Шляхам».**

# НЕ НА ТЭМУ

А. М. — добрай матцы. Аўтар.

«Пішы верш на «Дзень Маткі» — гэта лёгка сказаць,
Ня ўглыбіўшыся ў сэнс тэй задачы.
«Чаму не? Напішу!» — лёгка то-ж адказаць,
Але выканаць — гэта штось значыць...

Праўда, верш грымзануць можа кожны бадай,
Нават так на «раз-два», на калене.
Столькі тэмаў, прычын — дабірай, выбірай;
Глянь навокалі і знойдзеш натхненьне.

Бэзам кадзіць вясна, неба рдзіцца ад зор,
Закаханыя туляцца паркі
А ім «veni» пяець салаўёў стройны хор —
Вось ідыльля, штось як-бы з Пэтраркі.

Успомні буру вайны, што прайшла над зямлёй
Валявянай, шалёнай завеяй;
Ёй на сустрач на волаце-танку гэрой —
Эпос годны сапраўды Туртэя!

Магу лёгка пісаць пра палярных зор сьвет,
Ці пра гоман усходніх гарэмаў:
Словы нізіш, як пэрлы, з рымаў вяжаш букет,
Але-ж гэта усё не на тэму...

А калі я пачаў, штось на сёньня пісаць,
Сум бязьмежны здушыў мае грудзі...
Прыкра мне і прабачце, што мушу сказаць,
Але вершу на тэму ня будзе.

Бо якога-ж разьмеру, якіх рымаў і слоў,
Якіх можна ужыць параўнаньняў,
Каб магчы апісаць безгранічну любоў,
Бязпрыкладнасьць ахвяр і адданьня —

Душы матчынай зьмест, гэту сьвятасьць, наш скарб,
Што нас жывіць, нас грэе, нам сьвеціць?
Гэткіх слоў, такіх тонаў і лініяў, хварб
'Шчэ ніхто не стварыў на ўсім сьвеце.

Нёбы каменны боль, абразы «Піета»,
Верш Есеніна — здольны зварушыць;
Аднак гэтыя творы пяра, далата,
Хоць іх вычулі чулыя душы,

Не гавораць нам так, як вачыма душы
Бачым мы: у далёкай там хаце
Над калыскай дзіцяці ў паўночнай глушы,
Як трывожна схіляецца маці...

Мо' хто з нас ў лябірынце чужацкіх дарог
Адзінокі цяжар жыцьця цягнець,
Зьнемагае душой і ня чуе ўжо ног,
Бо іх сэрцаў людзкіх крэмень раніць.

Матка там, у зямлі — каму-ж выкажа ён
Ўвесь свой жаль, які ў ім накапіўся?
Што ня споўніўся матчын улюблены сон,
Што ён з шчасьцем ў жыцьці ня здружыўся.

Хіба ў цёмную ноч, у ціш, што можна пачуць,
Як у вечнасьці кануць мінуты,
Як нам сэрца кару чэрві болі грызуць
І бушуе ў душы агонь люты —

Тады ён адзінок між глухіх, нямых сьцен,
Што ня зрадзяць яго прад таўпою,
Да падушкі прыпаў, як да маткі кален,
Журбу выплача горкай сьлязою.

Будуць ведаць аб тым: душа маткі і Бог,
Бо ня трэба, каб ведалі людзі...
І цяпер вам вядома, чаму я ня мог...
Дзеля гэтага вершу ня будзе...

**П. Сыч.**

Лёндан, 27.5.1951. «Дзень Маткі».

# Замест вянка на магілу Андрэя Зязюлі

Сёлета ў студзені мінула 30 гадоў ад дня сьмерці паэта і грамадзкага дзеяча кс. Аляксандра Астрамовіча, шырока ведамага пад псэўдонімам Андрэя Зязюлі. Ад ягонае сьветлае постаці вее такою шчыраю і моцнаю любоўю да бацькаўшчыны, народу і Бога, што ніякі магільны пыл ня можа сьцьміць яе ў нашай памяці. Даўно змоўклі ягоныя вусны, але заўсёды будуць прамаўляць да нас ягоныя думкі праз ягоныя вершы, у якія паэт улажыў увесь жар свайго патрыятычнага і пабожнага сэрца.

Радзіўся Аляксандр Астрамовіч дня 26-XI-1878 г. у в. Новасады. Ашмянскага пав. у сялянскай сям'і. Пачаткавую асьвету ён атрымаў у Ашмянскай паветавай школе. Далейшая навука для яго, беднага беларускага сялянскага сына, была амаль немагчымая, бо гэта быў час жорсткага расейскага прасьледу ўсяго беларускага. Але ў сваім моцным жаданьні здабыць асьвету і служыць народу Астрамовіч ня спыняецца перад ніякамі перашкодамі. Для бедных сялянскіх дзяцей тады была бадай што адзіная магчымасьць здабыцьця асьветы ў духоўным кірунку і ён гэтую магчымасьць выкарыстоўвае. Праўда і тут былі для беларусаў вялікія перашкоды, бо амаль усе кіруючыя становішчы ў Каталіцкай Царкве на Беларусі знаходзіліся ў польскіх руках, дык ня дзіва, што польскія духоўнікі ў Вільні, да якіх Астрамовіч зьвярнуўся з сваей просьбаю, даведаўшыся, што ён сьведамы беларус, ставілі яму вялікія перашкоды пры ўступленьні ў Духоўную Сэмінарыю. Але Астрамовіч належаў да тых людзей, якія не зьняверваюцца нават перад найбольшымі цяжкасьцямі, ён адважна йшоў да раз абранае мэты. Кажуць, што «адважным Бог памагае», дык вось і Астрамовіч ў 1905 г. уступае ў Духоўную Сэмінарыю ў Пецярбурзе.

У тагачасным Пецярбурзе ўжо існаваў гурток сьведамых беларусаў. Душою і галоўным арганізатарам гэнага гуртка быў праф. Браніслаў Эпімах-Шыпілла, доўгагодні выкладчык у Каталіцкай Духоўнай Акадэміі. Малады Астрамовіч хутка знаходзіць кантакт з старэйшымі беларусамі і, падбадзёраны імі, разгортвае нацыянальна-усьведамляючую працу між сваіх сяброў сэмінарыстаў і арганізуе беларускую сэкцыю ў казнадзейскім гуртку. Шырокая і плённая дзейнасьць Астрамовіча была вельмі недаспадобы па-

лякам і дзеля гэтага пры заканчэньні Сэмінарыі яны рабілі паважныя перашкоды, каб не дапусьціць яго да сьвятарства. Але іхныя інтрыгі былі вельмі відавочныя і закіды беспадстаўныя — Астрамовіч атрымаў сьвятарскія сьвячаньні ў 1910 г. Цяпер з тых-жа інтрыганцкіх кругоў робяцца стараньні, каб кс. Астрамовіча не дапусьціць на Беларусь; праектуюць выслаць яго на душпастырства аж у Камчатку, але між ерархаў знайходзяцца людзі, якія і гэтым разам ударэмніваюць інтрыгі і кс. Астрамовіч у лютым 1911 г. прыязджае на родную Беларусь.

Хоць і ў далейшым маладому духоўнаму сыплюцца пад ногі перашкоды з усіх бакоў, але яны ня ў сілах спыніць ягонае дзейнасьці; побач чыста душпастырскае працы ён разгортвае шырокую беларускую грамадзкую дзейнасьць. За гэта яго часта пераносяць з парахвіі ў парахвію і робяць усё магчымае, каб спараліжаваць ягоную дзейнасьць, але на зло самым інтрыгантам, у змаганьні з гэтымі перашкодамі гартуецца дух і вытрываласьць кс. Астрамовіча, ягоная дзейнасьць і творчасьць разьвіваецца і толькі перадчасная сьмерць 17 студзеня 1921 г. спыніла яе.

Шчыра любіў кс. Астрамовіч сваю бацькаўшчыну і гэтую любоў ён выяўляў і словам, і чынам, і прышчэпліваў яе іншым. Так аб гэтым кажа ён у вершы «Пасьвята»:

Любы мне куток радзімы,
Беларусь сьвятая:
Тут радзіліся, расьлі мы,
Усё тут нас вітае.

Люба родная гаворка,
Душам нашым сьвіта,
З ёй, ці соладка, ці горка,
Мы жывём і квіта.

Любы родныя апраткі,
Норавы і звычка,
Песьні, казкі і загадкі
Люб народ мужыцкі.

Вось гарджуся гэтым родам,
Не хачу другога,
Бо ён злучаны з народам
Краю дарагога.

Дык паслухай-жа, браточак,
Гэтакай вось рады:
Палюбі ты свой куточак,
Мову, строй, абрады.

У іншых вершах, ён выказвае яшчэ выразьней сваю прывязанасьць да ўсяго роднага і пагарду тым, якія стараюцца вынарадаўляць беларусаў рознымі абяцанкамі. (Гл. верш «Ніколі»).

Час дзейнасьці кс. Астрамовіча быў часам буджэньня беларускае нацыянальнае сьведамасьці; адраджэнскі беларускі рух быў яшчэ вельмі слабы, але маючы заўсёдныя дачыненьні з роднымі гушчамі і бачачы вялікую духовую сілу беларускага народу, кс. Астрамовіч моцна верыў, што раней, ці пазьней, але беларускі народ дачакаецца лепшае будучыні:

Веру моцна: слова ў чын
Зьменіцца паволі
І убачыць селянін
Луч шчасьнейшай долі.

Творы А. Зязюлі да гэтага часу яшчэ не дачакаліся поўнага выданьня; яны раскіданы па розных газэтах і часапісах; як: «Наша Ніва», «Беларус», «Сьветач», «Вольная Беларусь», «Крыніца». Асобнымі зборнікамі да гэтага часу вышлі: «З роднага загону» 1913 г., «Слова праўды» 1917 г., «Алёнчына вясельле» 1922 г. Акрамя таго вялікая колькасьць ягоных твораў асталася ў рукапісах у родных і знаёмых, большасьць якіх ужо ня жыве.

Калі настане дзень тае «шчасьнейшае долі», аб якой лятуцеў усей душой кс. Астрамовіч, тады беларускі народ зможа лепш ушанаваць памяць свайго шчырага і ахвярнага сына.

Х. М-а.

## БЕЛАРУСЬ.

Ёсьць слоўца цэннае усімі знамяніта,
Што вымаўляецца з пашанай дзіцянём,
У якім паняцьце бацькаўшчыны скрыта, —
То Беларусь, то край, дзе мы здаўна жывём.

Старонка мілая, Ты многімі забыта,
Шмат сьпіць сыноў тваіх адвечным сном!
Зямелька родная, сьлязьмі і потам зьліта,
Мы да жыцьця з табою зноў уваскрасём.

Хоць знойдзецца ў табе выродны валакіта,
Катораму твая не да спадобы сьвіта,
І не адзін прадасьць цябе Іскарыёт,

Але табе яшчэ ўсё-ж, Маці семяніта,
Сяляне верныя, што сеюць жыта, —
А з іх паўстане твой народ.

## НІКОЛІ.

Над гонар і славу,
Над чары каханьня,
Народную справу
І перакананьні,
Што розум дыктуе,
Заўсёды я волю,
Ня здраджу ніколі.

Хай хмара навісьне
Над соннай зямлёю,
Хай гора прыціснe
Жалезнай рукою, —
Я роднае мовы
Ня кіну ў нядолі,
Ня здраджу ніколі.

Бушуе хай бура,
Віхор хай злуецца,
Хай вецер панура
Завые на рэчцы, —
Я роднага краю,
што рвецца да волі,
Ня здраджу ніколі.

Хай гром з пярунамі
Грыміць і страляе,
Маланка агнямі
Хай бліскае зьзяе, —
Свайго я народу,
Бяз хлеба і солі,
Ня здраджу ніколі.

Хай срэбра, дукаты
Мне сыплюць пад ногі
І скажуць: «Багаты
Будзь, кінь род убогі». —
Я плюну з пагардай,
А роду і волі
Ня здраджу ніколі.

Да самага скону
Усякім прымусам
І сіле прыгону
Скажу: «Беларусам
Навек астануся,
Сваей уласнай волі
Ня здраджу ніколі».

**Андрэй Зязюля.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ



### БЭАТЫФІКАЦЫЯ ПАПЫ ПІЯ Х.

Сёлета 3-га чэрвеня адбылася ў Рыме вялікая ўрачыстасьць бэатыфікацыі папы Пія Х. Кіраваў Ён Апостольскім Пасадам у часе 1903-1914. Ягонае прыкладнае жыцьцё і цуды, якія дзеяліся за Яго заступніцтвам, спрычыніліся да таго, што ягоны культ распачаўся хутка пасьля сьмерці, дзеля гэтага ў так кароткім часе, толькі 37 гадоў па сьмерці, Яго абвешчана блажэнным. На бэатыфікацыйную ўрачыстасьць прыбылі ў Рым шматлікія прадстаўніцтвы і паломнікі з усяго сьвету.

### 60-ыя УГОДКІ ЭНЦЫКЛІКІ «РЭРУМ НОВАРУМ».

Шырокаведамая энцыкліка папы Льва XIII «Рэрум новарум», якая займаецца сацыяльным пытаньнем з хрысьціянскага гледзішча, была выдана 15 траўня 1891 г. дык сёлета споўніліся яе 60-ыя ўгодкі. Усе хрысьціянска-работніцкія арганізацыі і рэлігійныя ўстановы ўва ўсім вольным сьвеце ўрачыста азначылі гэтыя ўгодкі.

Значэньне гэтае энцыклікі ёсьць вельмі вялікае. Каб яго належна ацаніць, трэба сабе хоць крыху ўсьведаміць тыя сацыяльныя адносіны, якія існавалі ў палавіне мінулага стагодзьдзя. Тады бескантрольны лібэральны капіталізм даводзіў вызыск работнікаў да нячуванае ступені і тым самым кідаў работніцтва ў рады розных арганізацыяў, якія на словах абяцалі залатыя горы, а на дзеле вялі яшчэ да горшага паняволеньня работніцтва. У гэтым палажэньні голас папы Льва XIII стаўся сапраўды голасам Хрысто-

вага Намесьніка, які адважна дамагаўся хрысьціянскае справядлівасьці ў сацыяльных адносінах, выступаючы ў абароне правоў работнікаў да справядлівае платы за працу і падзелу часткі надвыжкаў, адначасна рашуча абараняў права прыватнае ўласнасьці, так працадаўцаў, як і работнікаў.

Разьвязка сацыяльнага пытаньня ёсьць вельмі складанай. У сваёй энцыкліцы папа Леў XIII падае толькі галоўныя асновы для разьвязкі. Потым папа Пій XII ў энцыкліцы «Квадраґэзімо анно» яшчэ дакладней азначыў гэтыя асновы і сёньня, калі банктуруюць розныя грамадзкія сыстэмы, зацікаўленьне да ўспомненых энцыклікаў пачынае ўзрастаць штораз больш.

## ТЫДЗЕНЬ ФРАНЦУСКІХ КАТАЛІЦКІХ ІНТЭЛЕКТУАЛІСТАЎ.

Сёлетні Тыдзень Францускіх Каталіцкіх Інтэлектуалістаў, які адбыўся ў Парыжу між 25-31 траўня, меў праводную тэму: «Надзея людзкая і надзея Божая». Увесь Тыдзень прайшоў з вялікім посьпехам; аб гэтым найлепш сьведчыла заўсёды перапоўненая канфэрэнцыйная саля .

## ПАЛАЖЭНЬНЕ КАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ Ў ІЗРАІЛІ.

Афіцыяльныя адносіны ізраільскае ўлады да каталіцкага духавенства здаюцца быць вельмі добрымі, але ў сапраўднасьці так ня ёсьць. Ізраільскія ўлады праводзяць розныя мерапрыемствы, каб зьменшыць лік каталікоў у Палестыне. Дзеля гэтага каталіцкім сьвятаром, манахам і манахіням не даюць візаў на сталае пражыцьцё, а выдаюць толькі турыстычныя візы, якія трэба аднаўляць штодва, або штотры месяцы. Гэтак адносяцца ізраільскія ўлады нават да каталікоў жыдоў, якія з іншых краінаў стараюцца прыехаць у Ізраіль. Школы, сірацінцы і інш. каталіткія ўстановы так-жа маюць розныя цяжкасьці, якія навонках выглядаюць, як цяжкасьці толькі матэрыяльнага характару, але якія часам змушаюць даныя ўстановы замыкаць свае дзьверы. Такія непацяшаючыя весткі даходзяць з Сьвятое Зямлі.

## АСАБЛІВЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ.

Нядаўна Кангрэгацыя сьв. Ураду выдала дэкрэт, які забараняе біскупам пад караю экскомунікі, асаблівейшым спосабам зарэзэрвованае Апостальскаму Пасаду, каго небудзь, не назначанага Апостальскім Пасадам, пасьвячаць у біскупы. Гэты дэкрэт выданы ў зьвязку з царкоўнаю палітыкаю камуністычных уладаў «за зялезнаю заслонаю», якія ў Чэхаславаччыне ўжо пробуюць стварыць «Каталіцкую Царкву» незалежную ад Рыму.

## ДАЛЕЙШЫ НАСТУП НА КАТАЛІЦКУЮ ЦАРКВУ Ў ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЕ.

Наступ на Каталіцкую Царкву ў Чэхаславаччыне ўзмацняецца штораз больш. Пасьля арышту і ўвязьненьня Я. Э. архіб. Бэрана, цяпер скіравана наступ на Я. Э. Язэпа Матоху архіб. Оломуцкага, які займаў найвышэйшае мейсца пасьля пражскага архібіскупа. Цяпер ён знайходзіцца ў хатнім арышце і ня мае ніякае лучнасьці з сваімі вернікамі.

## АРЫШТЫ БІСКУПАЎ У МАДЗЯРШЧЫНЕ.

Паводля вестак, якія даходзяць з Вены і падцьвярджаюцца з Ватыкану, камуністычныя ўлады ў Мадзяршчыне павялі новы наступ супраць Каталіцкае Царквы. Апошнім часам там арыштавана трох біскупаў: Я. Э. Язэп Грош архібіскуп Калочы і найвышэйшы ерарх у Мадзяршчыне пасьля Я. Эм. кардынала Міндсэнті; Я. Э. Язэп Пэтэрі біскуп з Вац, Я. Э. Андрэй Гамвас біскуп з Чанад — усе тры ўспомненыя ерархі адмовіліся падпісаць маскоўскі апэль аб т. зв. пакце пяцёх.

## АРЫШТЫ КАТАЛІЦКАГА ДУХАВЕНСТВА Ў КІТАІ.

Апошнім часам арышты кат. ерархаў і сьвятароў у Кітаі пачынаюць прымаць паграджаючыя разьмеры. За мінулых 3 мес. арыштавана 5 біскупаў, на двох наложана дамовы арышт і адначасна арыштавана 45 сьвят. чужынцоў і 70 сьвятароў кітайцаў — гэткім чынам камуністы прыступаюць да арганізацыі «Незалежнае Каталіцкае Кітайскае Царквы». Весткі, якія даходзяць з Ґонґ-Конґу сьцьвярджаюць, што міма арыштаў, пагрозаў і прапаганды ніхто да гэтага часу з каталіцкіх кітайскіх ерархаў не пайшоў у сільё камуністычных хітрыкаў.

---

Адносіны камуністаў да Каталіцкае Царквы ўва ўсіх краінах, дзе яны захапілі ўладу, сьведчаць самі за сябе, чым зьяўляецца каталіцызм для камунізму і чым для народу.

## «СЛУЖБА ПАДРЫХТАВАНЬНЯ ДА СУЖЭНСТВА».

Пад гэткім загалоўкам ужо ад некалькі гадоў вядзе Каталіцкі Унівэрсытэт у Оттаве (Канада) завочнае навучаньне заручаных. Гэтая акцыя разьвіваецца з вельмі добрымі насьледкамі і распаўсюджваецца штораз шырэй у іншых краінах, як: З.Ш.А., Бразілія, Індыя, Афрыка, і часткова ў Эўропе.

### 1900 УГОДКІ ПРЫХОДУ АП. ПАЎЛА Ў ГРЭЦЫЮ.

Сёлета прыпадаюць 1900-ыя ўгодкі першага апостальскага падарожжа ап. Паўла па Грэцыі. З гэтае нагоды Грэцкая Праваслаўная Царква ў супрацоўніцтве з урадам ладзіць розныя ўрачыстасьці між 15 і 30 чэрвеня. Будуць так-жа выданыя розныя навуковыя творы прысьвечаныя ап. Паўлу. Арганізуюцца прошчы ў гістарычныя мяйсцовасьці.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Супрацьуніяцкая прапаганда на Беларусі.

Аб сучасным рэлігійным жыцьці на Беларусі афіцыяльныя весткі даходзяць толькі прыпадкам, пераважна праз «Журнал Московской Патриархии». У гадох 1947 і 1948 у гэтым журнале можна было даволі часта знайсьці ў хроніцы весткі з Беларусі; у 1949 г. гэтыя весткі сталіся рэдкасьцю, затое пачалі зьяўляцца супрацьуніяцкія артукулы, як: «Сьв. Прэпадобнамучаньнік Афанасі ігумен Берасьцейскі» — ЖМП. 1949, Нр. 1., «З гісторыі ўзьеднаньня Беларускіх Уніятаў» — ЖМП. 1949, Нр. 8. Сёлета супрацьуніяцкая прапаганда на старонках гэтага журналу набрала асаблівага размаху. У Нр. 1 за студзень і Нр. 3 за сакавік І. Спаскі апублікаваў вялікі артыкул на тэму: «Мітр. Пятро Могіла — яго барацьба з езуіцка-уніяцкім уплывам на Украіне і Беларусі». І адначасна ў Нр. 1 зьявілася вестка аб аднаўленьні Пакроўскага сабору ў Баранавічх. У наступным нумары за люты зьвіўся другі нарыс І. Шабаціна: «З гісторыі узьеднаньня Беларускіх Уніятаў». У Нр. 3 у такім-жа супрацьуніяцкім дусе прот. Б. Бураков падаў зацемку аб Журовіцкім манастыры: «Рассаднік духоўнае прасьветы», дзе цяпер рыхтуюцца кадры савецкага «духавенства» для Беларусі.

Чым выклікана гэтая супрацьуніяцкая хваля ў самых артыкулах няма найменшага намёку, аднак няма сумніву, што на Беларусі мусіла заіснаваць нейкая паважная прычына ,якая абумовіла паяву гэткіх артыкулаў. Магчыма, што гэта проста супрацьбеларуская акцыя, бо якраз яна супадае з таёмным зьнікненьнем адзінага ерарха на Беларусі ў савецкай «Праваслаўнай Царкве» з пахожданьня беларуса палескага арх. Даніла Юзьвюка.

### Яшчэ ў зямлянках.

Карэспандэнт бальшавіцкае газэты «Правда» Нр. 117 з 27-4 г.г. паведамляе з Менску: «Сотні сем'яў калгасьнікаў Менскае, Віцебскае, Гомельскае і інш. акругаў Беларусі сустракаюць першамайскае сьвята ў новых добраўладжаных дамох». Канчаецца гэтая карэспандэнцыя дапіскам: «Будаўніцтва паўсюдна прадаўжаецца. Летам гэтага году будуць ладзіць навасельле яшчэ дзесяткі тысяч калгасьнікаў». Да гэтага неабходна сказаць, тое, чаго не сказаў карэспандэнт, што гэтае навасельле «будуць ладзіць» беларускія сяляне, якія ўжо 6 гадоў пасьля заканчэньня вайны жывуць у зямлянках. І гэта дзееецца тады, калі ў тым-жа нумары «Праўды» у іншым артыкуле: «Вклад трудящихся Белоруссии» бяз ніякіх прыкрыцьцяў пішацца, колькі багацьця цяпер вывозіцца з Беларусі і асабліва лесу, а тымчасам народ кормяць абяцанкамі, што некалі ім дадуць магчымасьць пабудаваць хаты і ладзіць навасельле.

## АНГЛІЯ.

### З жыцьця ЗБВБ.

У беларускай калёніі ў Лёндане апошнім часам зазначаецца ажыўленьне ў арганізацыйным жыцьці.

Дня 7-4 адбылося паседжаньне Каардынацыйнага Камітэту Беларускіх Арганізацыяў у В. Брытаніі прысьвечанае выдавецкай і фінансавай справам.

Дня 12-5 стараньнем ЗБВБ была наладжана ў клюбе «Вайт Ігль» забава.

У днёх 13 і 14-5 адбыўся Пяты Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у В. Брытаніі. Працы і нарады Зьезду адбыліся паважна і рачова. У галоўную ўправу ЗБВБ выбрана: старшыня — А. Надсон, заступнік старшыні — А. Лашук, сакратар — П. Асіповіч, скарбнік — К. Смайкевіч, сябра ўправы — П. Наваро.

Дня 27-5 стараньнем ЗБВБ быў наладжаны «Дзень Маткі». У праграму ўвайшлі: Служба Божая ў доме а.а. Марыянаў; казаньне аб Найсьв. Дзеве Марыі, даклад д-р Т. Руткоўскае; літаратурны сюжэт Я. Амора, даклад А. Шашылоўскае аб жыцьці беларускае маці ў БССР, верш П. Сыча — «Не на тэму», дэклямацыі і сьпевы дуэтам і хорам. Гэта першы раз ладзілі беларусы «Дзень Маткі» ў В. Брытаніі, на ім прысутначалі так-жа цмматлікія чужынцы. На ўсіх прысутных урачыстасьць зрабіла вельмі добрае ўражэньне.

### Радыёперадача аб Беларусі.

Ангельскае Радыё БіБіСі дня 10 красавіка перадавала зьмястоўную інфармацыю аб сучасным палітычным і эканамічным палажэньні на Беларусі.

### Памёр архіяп. Савва.

У Лёндане дня 21 траўня г.г. памёр пасьля двухдзённае хваробы арх. Савва Советов каліш-

ні яп. Горадзенскі і Наваградзкі, а потым польскі вайсковы праваслаўны япіскап і галоўны арганізатар «праваслаўных палякоў». Апошнім часам ён зьяўляўся галавою «Польскае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы» на эміграцыі, да якое залічаў так-жа частку беларусаў ў Англіі.

Цяпер кіраўніцтва «Польскае Аўтак. Прав. Царквы» на эміграцыі пераняў б. віленскі вікарны яп. Матэй (Семашко).

## АРГЭНТЫНА.

### Агульны Зьезд З.Б.А.

Дня 20 траўня адбыўся ў Буэнос Айрэс чацьвёрты Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Аргэнтыне. Прайходзіў ён пад клічам: аб'яднаньня ўсіх беларускіх нацыянальных сілаў у Паўдзённай Амэрыцы.

Працы Зьезду працягнуліся да познае ночы. Былі прадыскутаваны ўсе справы беларускае калёніі ў Аргэнтыне і намечаны плян працы на бягучы год. У склад новае ўправы ЗБА выбрана: старшыня — Уладзімер Другавец, сябры ўправы: Уладзімер Літвінскі, Васіль Казлоўскі, Анатоль Грынкевіч і Аляксей Карповіч. У Наглядную Раду: Кастусь Мерляк, Мікалай Ланкевіч і Мікалай Лазюк.

Была выслана тэлеграма прэзыдэнту Аргэнтынскае Рэспублікі. Закончыўся Зьезд адсьпяваньнем нацыянальнага гымну.

## ГІШПАНІЯ.

### На міжнародным Кангрэсе.

Міжнароднае Каталіцкае Бюро Дзіцяці сёлета між 26 і 30 красавіка ладзіла ў Мадрыдзе свой першы Міжнародны Кангрэс пад пратэктаратам Толедзкага Кардынала і Мадрыдзкага Патрыярха Я. Эм. Леопольда Эйхо і з удзелам высокіх дзяржаўных мужоў Бэльгіі, Галяндыі, Гішпаніі, Італіі і Францыі. Між шматлікімі прадстаўнікамі ўдзельнічала ў Кангрэсе і беларуская дэлегацыя. Справаздача беларускага дэлегата аб сучасным трагічным палажэньні беларускіх дзяцей на бацькаўшчыне і на эміграцыі выклікала вялікае зацікаўленьне ў прысутных.

## БЭЛЬГІЯ.

### Ушанаваньне архіпастырскае службы.

Сёлета 29 траўня беларуская студэнцкая грамада ў Лювэне ўрачыста адзначыла 25-ыя ўгодкі архіпастырскае працы Яго Эксцэленцыі Балеслава Слосканса Апостальскага Адміністратара Магілёўскага і Менскага. Хоць сам Юбілят яшчэ ня зусім ачуняў ад нядаўнае апэрацыі, але не адмовіўся прыйсьці ў Беларускі Студэнцкі Дом, дзе яго прывітаў студэнцкі хор спэцыяльнаю одаю, якую на чэсьць дастойнага Юбілята напісаў камп. М. Равенскі, наступна віталі Юбілята: М. Жылік ад Б.С.З., а А. Смаршчок ад БАПЦ, В. Рамук ад Б.А.К.А. «Рунь»; адначасна ўручана яму букет кветак і памяткавы альбом Усьлед за тым хор адсьпяваў «Многая лета». Усхваляваны шчырым прыняцьцем, дастойны Юбілят падзякаваў за прывітаньні і дарункі ды расказаў некаторыя факты з свае працы на Беларусі, наступна заклікаў студэнтаў, каб, здабываючы асьвету, так-жа запалілі ў сваіх душах Хрыстовую Любоў, каб пасьля занесьці яе на бацькаўшчыну, як наймацнейшы будаўнічы дзейнік. Уканцы сказаў: «У сваіх малітвах штодзень прашу Бога, каб Ён вызваліў з няволі Беларусь і яе народ».

Пасьля скромнага пачастунку на чэсьць Юбілята студэнцкі хор выканаў некалькі рэлігійных песень. На разьвітаньне Я. Э. Слосканс удзяліў усім прысутным сваё архіпастырскае багаславенства.

## З. Ш. А.

### Скаўты арганізуюцца.

Сёлета ў Нью Ёрку заснавалася Першая Беларуская Скаўцкая Група. Старшынства над Групаю даручана скаўтмайстру М. Тулейку.

Урачыстая цэрэмонія заснаваньня адбылася дня 17-III. У прысутнасьці прадстаўнікоў ад амэрыканскіх скаўцкіх уладаў, Скаўцкага Камітэту, бацькоў і госьцяў. Праграма ўрачыстасьці складалася з: скаўцкае прысягі, скаўцкіх і нацыянальных песень, прамоваў прысутных прадстаўнікоў, раздачы легітымацыяў і ўрачыстае перадачы апякуном беларускага скаўтынгу гэн. Ф. Кушалем скаўцкага сьцягу, прывезенага з Нямеччыны.

Перш яшчэ, бо 4 лютага, заснаваўся круг Беларускіх Скаўтаў «Пагоня» ў Чыкаго.

## ІТАЛІЯ.

### Адведзіны прэз. М. Абрамчыка.

Сёлета ад 3 да 17 траўня прэзыдэнт інж. М. Абрамчык адбыў падарожжа ў Італію, быў на аўдыенцыі ў Сьвяцейшага Айца, меў гутаркі з прадстаўнікамі Кангрэгацыяў, якія займаюцца беларускімі рэлігійнымі справамі, гасьціў у беларускай калёніі ў Рыме і адведаў руіны Монтэ Касіно, дзе між іншымі палёглымі жаўнерамі, спачываюць так-жа сотні беларусаў, дык зложыў вянок на іхных магілах і замовіў за супакой іхных душаў штогоднія Службы Божыя ў мяйсцовых а.а. Бэнэдыктынцаў.

## КАНАДА.

### Трэці Агульны Зьезд ЗБК.

У Торонто 19 і 20 траўня адбыўся Трэці Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Канадзе. Пасьля справаздачы ўступаючае ўправы па-

рушаліся ў дыскусіі ўсе важныя і балючыя пытаньні з жыцьця і дзейнасьці ЗБК. У выніку намечана плян працы ня бягучы год і выбрана новую ўправу ў складзе: старшыня — Ал. Грыцук, заступнік старшыні — Я. Пітушка, сакратар — Т. Салановіч, сябры ўправы — М. Рачыцкі і Кісель.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Тыдзень малітвы за злучэньне Царкоў.

У царкве сьв. Якуба ў Госляры, дзе знайходзіцца прапамятная табліца юбілею Берасьцейскае Уніі, сёлета падчас тыдня малітвы за злучэньне Царкоў а. М. Маскалік у суботу вечарам выясьніў у нямецкай мове, грамадна сабраным вернікам немцам і чужынцом, Службу Божую бізантыйскага абраду, а ў нядзелю ў гэтым-жа абрадзе была адпраўлена ўрачыстая Служба Божая з удзелам жаночага хору. Прысутныя масава прыступілі да сьв. Споведзі і сьв. Прычасьця, каб выпрасіць у Бога той дзень, калі ўсе народы, злучаныя Хрыстоваю Любоўю, адным сэрцам і аднымі вуснамі будуць услаўляць Усявышняга. На заканчэньне адсьпявалі «Многая лета» сьвяцейшаму айцу Пію XII.

### Дзень Прэсьв. Эўхарыстыі ў лягэры Зээдорф.

Сёлета дзень Прэсьв. Эўхарыстыі ўсе жыхары лягэру Зээдорф адсьвяткавалі супольна з беларусамі. Да іх далучыліся яшчэ жыхары суседніх 4-х лягэраў — разам больш тысячы асоб. Працэсію вёў і сказаў прыгожае прынагаднае казаньне а. М. Маскалік кіраўнік Беларускае Каталіцкае Місіі ў Нямеччыне. Сапраўды было міла бачыць, як у аграмаднай працэсіі йшлі згодна за Эўхарыстычным Хрыстом: беларусы, летувісы, палякі, мадзяры, украінцы і эстонцы.

### Беларускае прадстаўніцтва ў Францускай Зоне.

Акупацыйныя, ІРО-ўскія і нямецкія ўлады нарэшце прызналі беларускае прадстаўніцтва на францускую зону Нямеччыны. Беларускім прадстаўніком зьяўляецца Ю. Попюо.

### Міжнародныя спатканьні.

З ініцыятывы ІМКА дня 17 траўня адбыўся ў лягэры Діц кангрэс прадстаўнікоў нацыянальных групаў з Францускае Зоны. Наступнага дня прадаўжаўся кангрэс з прадстаўнікамі ІРО і PDR.

Беларускі прадстаўнік на кангрэсе выкарыстаў сваю прысутнасьць у лягэры, каб паінфармаваць сваіх суродзічаў аб бягучых грамадзкіх і эміграцыйных справах.

### Арганізацыйнае жыцьцё.

Нявелікая беларуская група ў лягэры Діц на сваім агульным сходзе ў прысутнасьці беларускага прадстаўніка на франц. зону дня 18-5, абгаварыўшы справы арганізацыі дапамогі хворым і культурнага жыцьця, намеціла практычны плян працы ў гэтых галінах на бліжэйшую будучыню.

### Вялікае веча АБН.

У Мюнхэне дня 3-V адбылося вялікае пратэстацыйнае веча супраць расейскага імпэрыялізму нерасейскіх народаў, згуртаваных у Антыбальшавіцкім Блёку Народаў. На салі сабралася каля 2.000 чалавек ад 22 нацыяў. Прысутнічалі шматлікія прадстаўнікі аліянцкіх і нямецкіх уладаў і дыплёматычнага корпусу, а так-жа 50 прадстаўнікоў ад розных рэдакцыяў, прэсавых агенцыяў і радыё.

Ад імя беларусаў прамаўляў беларускі прадстаўнік у АБН д-р Ст. Станкевіч.

Веча прайшло ў прыкладным парадку і мела шырокае водгульле на старонках нямецкае і інш. прэсы.

## ФРАНЦЫЯ.

### Выступ у тэлевізіі.

На запрошаньне францускае тэлевізійнае станцыі Ліль трох беларускіх студэнтаў з Лювэну выступалі дня 19 траўня а гадз. 21 з канцэртам беларускіх песень. Гэта быў першы тэлевізійны выступ беларусаў у францускім радыё.

### Агульны Сход Выдавецкага Фонду.

У зьвязку з выданьнем газэты «За волю» Беларускі Выдавецкі Фонд у Францыі сёлета змушаны быў пасіліць і зактывізаваць сваю працу — пад гэткім клічам адбыўся дня 10-6 ў салі Хрысьціянскага Сындыкату гадавы Агульны Сход БВФ. Справаздача ўступаючае ўправы сьведчыла аб вялікай працы, якую да гэтага часу выканана коштам БВФ, не зважаючы на невялікую колькасьць сяброў арганізацыі. Усталена вышыню сяброўскіх складак. Уканцы выбрана новую ўправу, у склад якое ўвайшлі: старшыня — Ул. Шыманец, сакратар — А. Міцкевіч, скарбнік — С. Бэус, сябра ўправы — М. Лысуха.

## ПОШУКІ:

Хто ведае аб долі **Пракаповіча** Канстанціна з в. Баровічы на Палесьсі, просіцца адгукнуцца на адрас рэдакцыі.

**Белькевіча** Сяргея нар. у в. Кухты акр. Старая Вілейка, які да 1944 г. быў у Нямеччыне, шукае яго родны Кіслы Іван. Пісаць на адрас:

**Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland, (20 b) Goslar - Harz, Sommerwohlenstr. 1. A. Germany.**

Gérant : D. Kucopej. Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

### ШЧЫРАЯ РАНЕШНЯЯ МАЛІТВА.

«Госпадзе, сёньня я буду вельмі заняты. Можа так здарыцца, што я забудуся аб Табе, але Ты, Госпадзе, прашу Цябе, не забывайся аба мне».

Гэта словы Якава Астлей перад боем каля Ньюбуры. Цяпер дырэктар аднае вышэйшае школы ў З.Ш.А. прыгожа перапісаў іх і апраўіўшы ў багатую рамку, паставіў на сваім працоўным стале.

**Падаў Джэмс Кэльлер.**

### ДЗЕ ХТО МОЛІЦЦА?

У нядзелю рана сядзелі ў адным шынку чатыры мужчыны каля стала з выпіўкамі і гралі ў карты. У шынак зайшоў жабрак і прыступіўся да картаграяў, просячы міластыні. Адзін з картаграяў, узлаваўшыся настырліваю просьбаю жабрака, пачаў ганіць яго: «Як табе ня сорамна, цяпер, калі якраз у сьвятынях правіцца Служба Божая, валачыцца па шынках і жабраваць?» На гэта жабрак спакойна адказаў: «Выбачце мне, што вам перашкаджаю ў вашым набажэнстве!»

### ПРЫЗНАНЬНЕ ЛЕКАРА.

Шырокаведамы амэрыканскі лекар д-р Карло Рушчэ з Гольлівуду, старшыня Амэрыканскага Ірологічнага Таварыства нядаўна на лекарскім Сходзе ў Вашынгтоне сказаў між іншым наступнае:

Ці гэта прызнаём мы, ці не, лекары ёсьць заўсёды залежныя ад Божае сілы падчас лячэньня хворых. Дзякуючы паглыбленьню ў сваіх спэцыяльных навуках здараецца, што лекар можа выяўляць нахіл да ігнараваньня шырокага зьвязку ў сьвеце. Аднак мы мусім памятаць, што ўсе крыніцы лячэньня ў сьвеце: сонца, зямля, пажыва, а так-жа розум чалавека і прылады, якія вынайшаў людзкі розум — усё гэта ў аснове ня ёсьць дзелам чалавека. Чалавек ёсьць неімаверна нецярпячы і вузкі, калі ня можа ўцяміць, што праз нас дзейнічае Божая сіла, якая прыносіць посьпех нашым стараньням і што лячобныя крыніцы сусьвету ня мы знайшлі. Ці гэта мы прызнаём, ці не, мы ўсе залежныя ад Сілы вышэйшае за нас».

### ЗЬМЯСТОЎНЫЯ НАДПІСЫ.

У адной вясковай цэркаўцы ў Газэнбюрэн, недалёка ад Брэмэну, ёсьць вельмі цікавы абраз з яшчэ цікавейшымі надпісамі. Там відзён імпэратар з каронаю і скіпетрам, а пад ім чытаем: «Я валадару над усімі вамі». Побач намаляваны папа ў тыяры, а пад ім надпіс: «Я вас усіх навучаю». Далей знайходзіцца ваяка з шабляю ў руцэ і з подпісам: «Я вас усіх абараняю». Наступна відзён араты з плугам, а пад ім словы: « Я вас усіх кармлю». Уканцы намаляваны чорт з каляскаю і подпісам: «Калі вы ня выканаеце, як сьлед вашых абавязкаў, дык я вас усіх зацягну да сябе».

### КРЫК УМІРАЮЧАГА.

У адной больніцы цяжка хворы, чуючы, што надыходзіць ягоная апошняя хвіліна, пачаў крычаць: «Вярні яго! Вярні яго!» — «Каго вярнуць?» —спыталася, вартуючая там мэдыцынская сястра. — «Ды час; страчаны час», — казаў уміраючы.

Калі мы страцім нашу маемасьць, мы можам яе яшчэ зноў дарабіцца; калі мы захварэем, дык з Божай помаччу яшчэ можам вылечыцца, — але страчаны час ёсьць беспаваротнаю стратаю. Той, хто губіць час, ёсьць найбольшым марнатраўнікам.

### ПРЫКЛАДНЫ ПАСТЫР.

Калі камуністы завалодалі Кітаем і скіравалі свой наступ на Каталіцкую Царкву, дык перш-наперш налажылі сваю цяжкую руку на каталіцкіх ерархаў, пазбавіўшы іх у першу чаргу магчымасьці пражыцьця, каб гэткім чынам змусіць іх да эміграцыі.

Аднак гэткія мерапрыемствы не асягнулі намечанага выніку. Я. Э. Іван Ванг-Цэнг-І біскуп з Анкво, выгнаны з ягонае рэзыдэнцыі, пазбаўлены ўсяе свае маемасьці, зарабляў сабе на пражыцьцё, прадучы воўну і вырабляючы скрыначкі да запалак, не пакідаў свайго пасаду. У 1950 г. за тое, што на Вялікдзень правіў урачыстую Службу Божую, не зважаючы на розныя камуністычныя прыпісы, яго адміністрацыйна пакаралі і гэтую кару ён мусіў адрабляць публічна, замятаючы некалькі вуліцаў у горадзе. Спакойна прыняў ён гэтае паніжаючае пакараньне і замёўшы раніцаю вуліцы, вяртаўся ў сірацінец, дзе тымчасова асяліўся ,і там служыў Службу Божую. Сёлета 21.11 пасьля кароткай і цяжкай хваробы ён памёр, шчыра аплакваны ўсімі сваімі вернікамі.

### НА ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» І ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «ДОБРАЕ КНІЖКІ»

**Апошнім часам прыслалі:**

А-ко Д. 475, Ас-віч Я. 745, Б-ук М. 350, Бр-іч П. 200, Б-ко Э. 1.500, Б-ко Я. 300, Гр-іч С. 350, Зан-іч М. 450, Кав-ко Хр. 1.000, Кав-кі Р. 300, Кр-іч К. 200, Л-ук А. 300, Лаз-кі М. 475, Мат-іч А. 200, Мл-ык В. 350 М-о Н. 300, Най-ук Ч. 1.587, Н-ак М. 300, Ром-ук А. 500, Са-іч В. 220, С-ко У. 475, Ск-ец Т. 475, Хм-ук А. 350, Шу-тэ 750, Група з Аўстраліі праз Яцкевіча Д. 1.567.